## ЗЬМЕСТ:



Нумар здан у набор 29-VI—32 г.

Падпісан да друку 7-VII—32 г.

Адказны рэдактар Мікола Хведаровіч.

Адказны сакратар В. Маракоў.

Нумар набран і зьвёрстан брыгадай імя 13-га Кастрычніка, па макету А. Тычыны.

Карэктар З. Варатынская.

Кліше выкананы пад кіраўніцтвам Кантаровіча.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь

ліпень 1932

Адрас рэдакцыі: Савецкая, 59 Тэл. № 17—09

13

## Вершы пераможнаму ліпеню

Сьцяпан Ліхадзіеўскі

1.

У знарадамі ўзьнесеным дыме
нават ноч прарыкала:
— Ня сьпі!
Каржакаватыя
і маладыя
мы выпроствалі дугі сьпін.

Разрывалася неба на вату,
і зямля,
бы ў бязьдоньне,
ішла,—
Маладыя
і каржакаватыя
мы сабе пракладалі шлях.

Хай абутак падзёртасьцю сьвеціць, —
мы ня рыцары белых рук,—
мы сваю баранілі,
Савецкую,
Беларусь!

І да цела спацелай кашуляй
ліпне ліпень,
зьбівае з ног...
Нас жытнёвы прывал прытуліць—
і да бою гатовы зноў.

Так губляўся і лік падзеям.
І з бакоў,
праз туман густы,
як узброены белагвардзеец,
здрада нашыя брала пасты.

Мы адказвалі вельмі проста:
Раз—і—два!
І ціша вакол...
Комсамолія перарастала
у гартованых бальшавікоў.

Беларусь партызаніла ў лесе —
наш і лес,
наша ноч
і вятры...
Нават месяц,
здаецца,
зьлезе
у шатры к нам
перакурыць.

Падыходзіла сьвежая моладзь
па расе срэбналістай начы.
Бралі прыступам...
Бралі ў голадзе —
беларусы і масквічы!

Край увесь гэту музыку слухаў,
бачыў край праз гарматны дым,
як яны падпалілі Слуцак,
адступаючы назаўжды.

І рашучым сваім ударам
мы сігалі да новых зьмен.
Брала Менск наша слаўная армія,
наша армія брала Менск.

Тым, што падалі,—
лепшым дарам
рост і поступ краіны той...
Ім на зьмену—
найлепшыя ўдарнікі
першым шэрагам барацьбітоў.

Нашу першую песьню заводзіць
будаўнік
і герой.
Ім узьведзеныя заводы—
соцыялізму рост.

Вось прытулак былых паўстанцаў.
Глуш лясоў
і балот рызьзё...
Тут грымяць нашы электрастанцыі
над вадой люстраной вазёр.

І калгасьнік ячменнае золата
высявае на ўсходзе яснот.
Мы засеялі
болей
сёлета
і хутчэй,
як мінулай вясной.

Праца наша лепшаму сыну—
справай гонару ў барацьбе.
Перакройваючы краіну,
перакройваем
і сябе.

А калі-ж
пагранічныя ветры
нам трывожны сыгнал прынясуць,
маладыя,
рэспубліцы верныя,
мы напішам мільённы прысуд.

Мы бяром цытадэлі новыя
на імшарах балот,
зямлі,—
бо мы ведалі ў дні ліпнёвыя
за што біліся,
кроў лілі.

2.

Мы страчаем вясну штогодна
з перамогамі,
з новай сяўбой...
Добра помнім,
што наша Заходняя
яшчэ выйдзе ў рашучы бой.

Добра знаем,
што з Лодзі і Плоцку
шуганe пажарышча баёў,
што рабочыя беластоцкія
скажуць голасна слова своё.

Комуністаў і комсамольцаў,
тысяч тых,
што глядзяць з-за крат,
ня стрымае і карная коньніца,
умываючы кроўю край.

Што сабрана гаротнаю працай,
што крывавы мазоль саткаў,—
вы зьмятаеце ліцытацыяй
усё начыста,
з малатка.

Прыйдзе ў сёлы ліхі сэквэстратар
выкалочваць багацьце вам.
І з цяжкімі,
глыбокімі стратамі
люд абураны ўзьніме шквал.

І ліслівым азызлым смоўжам
(гэту казку мы знаем даўно)
канфідэнт ваш назаўтра зноў-жа
панясе на „бандытаў“ данос.

Сьнеў на вуліцах вамі прышыблены,
і абкрадзены ніў абшар.
У краіне—
вароты шыбеніц
і разгромленае ТэБэШа.

У краіне з „высокай культураю“
вы ня чуеце лёгкіх ног...
Вы паслухайце—
вам хаўтуры
напявае ў палёх быльнёг!

Барыкадным ня сьціхнуць маршам,
і агню ня стухаць
ля хат.
Вас пагоняць рабочыя-ж вашыя
з дапамогай
свайго штыха!






Малюнкі М. Пашкевіча

З. БЯДУЛЯ.

Надышла ноч.

Прыкры шум на вуліцы пранікаў праз тоўсты мур рытмічным лямантам пад гэту рытміку. Алесь Крушынскі дрыжачымі губамі напяваў два словы, якія чуў ад рабочага Сакалоўскага:

Паны ўцякаюць.
Паны ўцякаюць.
Паны ўцякаюць.

А вочы ў жонкі былі пустыя і празрыстыя ад сполаху.
А вочы ў брата былі зьдзіўленыя.
А братава жонка ўкладвала дзяцей спаць.

З суседніх дамоў раптам пачуўся прыкры бразгат разьбітага шкла. За бразгатам—сьвісты, п'яныя лаянкі і жудаснае, працяглае „а-а-ай"...

Жанчыны пачалі рукі ламаць. Крушынскія пабляднелі. Сам сабою вырваўся шэпт:

— А божа-ж мой... а божа-ж мой...

Прачнуліся дзеці:
— Ой, што гэта?
— Сьпіце. Пеўні сьпяваюць.

З розных месц вуліцы далятала сюды крыкі, сьвісты, войканьне:

Дзеці заплакалі.
— Што гэта? Што гэта?—пыталіся яны.
— Сьпіце. Каты мяўкаюць.

А ноч стагнала: „у-о-о-ой, у-о-о-ай.
А ноч выраблялася: „у-аа-ай,—у-о-о-ой...

Вочы дзяцей сталі бліскучымі і зацікаўленымі.
— Што гэта? Што гэта?
— Сьпіце. Сабакі выюць.

Доўга цягнулася ноч.
І нібы ўсю ноч па вуліцах Менску збожжа малацілі.
Ніхто ня спаў.

І ноч праплыла доўгім нясупынным лямантам жудасьці і страху.

Некалькі разоў бразгаталі ў жалезную браму дома Крушынскіх.

— Адчыні, пся косьць!
— Тут палякі жывуць,—адказваў ім з двара дворнік.

А ў грукаце і шуме, у крыках і лямантах Крушынскі чуў два словы, сказаныя наборшчыкам Сакалоўскім:

— Паны ўцякаюць...

Раніцою нехта прынёс весткі:
— Рабуюць...
— Забіваюць...
— Прыкладамі залатыя зубы выбіваюць...
— Пажары...
— У Кашарах гараць казармы... У вадной з іх запёрты палонныя бальшавікі... Адтуль жудасныя крыкі і ляманты чуваць...

Плоймамі варон расьлі адна за аднэй страшныя весткі:
— Пілсудчыкі абяцаліся каменя на камені не пакідаць...
— Гарыць Менск з усіх канцоў...
— Рабуюць крамы...
— Гранаты кідаюць...
— Забіваюць людзей...

У агні Залатая горка, Пярэспа, Кашары, Камароўка, вакзалы ля жалезнага маста...

Замест сьнеданьня страшныя весткі.

І дзіва, наслухаўшыся гэтага, Алесь Крушынскі супакоіўся, баяцца перастаў. Толькі адно жаданьне зьявілася ў яго: пaглядзець усё гэта сваімі вачыма. Можа толькі раз у жыцьці ўдасца пабачыць такую романтыку... Палякі (а можа паны, як гаварыў Сакалоўскі) любяць старадаўнія рыцарскія традыцыі...

Крушынскі зьеў бутэрброд, падмацаваўся, каб паглядзець „рыцарскую романтыку" сваімі вачыма. Пасьля гэтага ён узьлез на гару дома, а адтуль ускарабкаўся на дах.

Над Менскам у розных мясцох клубіўся дым—чорны, рыжы. Узьнімаліся ракеты іскраў. Палыхалі агні. Горад лізалі чырвоныя языкі. Успыхне агонь агромністым букетам у адным месцы, у другім, у трэцім. Абхопіць будынак вянком у макавых красак у адным месцы, у другім, у трэцім. Дзікае ігрышча пажарчышча імчыцца на гарачых крыльлях у адным месцы, у другім, у трэцім... Нібы палаючыя, крылатыя шчупакі, скачуць галавешкі ў гару, іскравяцца, дымяць... Смуродны дым, стрэлы з карабінаў, выбухі бомбаў, крэхт вокнаў, палаючых крокваў, крыкі роспачы, грукат жалезных калёс на бруку, тупат войска, поканьне конскіх капыт, — усё гэта зьмяшалася ў адно рытмічнае:

Паны ўцякаюць...
Паны ўцякаюць...

Усё насельніцтва высыпала з кватэр на гароды — старыя, маладыя, малыя. Вакол іх узгоркі мяшкоў з хатнімі рэчамі. Па ўзгорках—жаўнеры капаюцца. Жанчыны ўзьнімаюць рукі ў гору, у неба і крычаць:

— Ратуй-у-уйце! Ра-а-туй-ця-а-а!



НАД МЕНСКАМ У РОЗНЫХ МЯСЦОХ КЛУБІЎСЯ ДЫМ.

Страшная агнёва-крывавая лазьня:

Паны ўцякаюць...

Крушынскі стаіць на даху свайго чатырохпавярховага мура і яму здаецца ў гэту хвіліну, што ён жыве ў старыя-старыя часы, дзьвесты тысячы год таму назад. Ён, Крушынскі—вялікі жрэц Молаха, бога агня і ён служыць цяпер урачыстае набажэнства Молаху, кідае людзей у агонь. А вакол сотні і тысячы ахвяр у прадсьмяротным захапленьні пяюць гімн:

Паны ўцякаюць...

Уцякаюць паны...



АДЗІН З ЖАЛНЕРАЎ ПАДСКОЧЫЎ ДА СТАРОГА...

Відовішча затупляецца ад яго вачэй смуродным дымам.

Крушынскага пацягнула на вуліцу. Ён зышоў з даху і пераапрануўся ў старую вопратку.

— Куды ты? Куды ты?—залементавала жонка.

— Хачу паглядзець...

— Ня пушчу! Яшчэ заб'юць!—і стала каля дзьвярэй.

Ён адпіхнуў ад сябе жонку, ірвануў дзьверы і вышаў.

На вуліцы ён не адчуваў гэтай урачыстасьці і „дзікага харасьва", як раней з вышкі і аддаленасьці даха свайго высокага дома. Ён зьмяшаўся з вайсковым натоўпам. Было тут шмат і штацкіх і ніхто на яго ўвагі не зьвярнуў. Легіянэры прадавалі нарабаванае: вопратку, боты, мяшкі какао, скрынкі папярос, гадзіньнікі.

Магазыны і крамы на вуліцы Адама Міцкевіча разьзявілі вялізныя іржы—выбітыя вітрыны. На тротуарах—бітае шкло, пустыя скрыні; як трупы, манэкены з кравецкіх майстэрняў, вайсковыя галовы з цырульняў.

Хрусьціць і скрыгоча пад нагамі шкло. Па шкле ідзе згорбленая прагавітая бабуля, да вачэй закутаная хусткай. Нясе вядро з яблачным павідлам, нясе ды з апаскаю па баках аглядаецца.

— Дзе дастала?—зацікавіўся Крушынскі.

— Вунь там!

Голас яе гаспадарчы, заклапочаны.

Побач разьбіты кооператыў. Каля яго людзі з мяшкамі, і вёдрамі, з кошыкамі.

Ніхто з іх не зьвяртае ўвагі, што на суседнім дварэ—сьвісты, плач, гіканьне, рогат.

Два жаўнеры выгналі адтуль старога, спалоханага яўрэя.

Ён у адной бялізьне, рукою прыкрывае цадрэзаную бараду.

Адзін з жаўнераў падскочыў да кабеты і кінуў у вядро з павідлам жмут с'вых валасоў.

— Ай, людцы!—завізгатала кабета,—павідла спаскудзіў.

— З жыдоўскай барадой смачней будзе! — засьмяяўся жаўнер.

Кабета тут-жа на кавалкі шкла выплюхнула з вядра павідла і пабегла зноў у разгромлены кооператыў.

Пад нагамі кабеты хрусьціць шкло. За яе сьпіною—цюканьне і люканьне.

А пасярод вуліцы плыве да вакзалаў войска, тупаюць людзі, цокаюць падковы, грымяць калёсы, лязгае жалеза артылерыйскіх павозак. Смурод чалавечага і конскага поту. І ва ўсім гэтым голасе Крушынскі чуе рытмічныя гукі, і ў рытмічных гуках—два словы:

— Паны ўцякаюць...

— Паны уцякаюць...

І ў дзікіх лямантах з гародаў і кватэр, і ў крыку-плачу папалоханых людзей, і ў рогаце-сьвісьце разьюшаных пілсудчыкаў, і ў шуганьні блізкіх пажарышч ён чуе гукі двух слоў:

— Паны ўцякаюць...

Крушынскі павярнуў назад і давай каля сьцен па шкле прабірацца дамоў. І раптам за яго сьпіною:

— Гэй! Ты-ы-ы! Стой!

Крушынскі адвярнуўся.

— Да мяне?

— Стой, псяюха!

Да яго падскочылі два п'яныя афіцэры.

— Хадзем!

— Куды?—запытаўся ён раптам ахрыплым голасам.

— Не размаўляць! А то...

Над ім зьмеем узмахнуўся бізун. Крушынскі спакорліва нагнуў галаву. Піск зайца вырваўся з яго горла:

— Ня бійце...

— Прэндзэй!

Не памятае як дайшоў да каменнага дома. Усю дарогу чакаў:

... Вось-вось спаласуюць яго бізуном... Вось-вось стрэльнуць у сьпіну, і ён застанецца ляжаць на пабітым шкле ў лужы крыві... Вось-вось...

Стала горача, пуста ў грудзёх. Яму здавалася, што аглох, бо перастаў чуць грукат і крыкі.

Афіцэры завялі яго ў нейкую пустую кватэру.

— Нясі!

Паказалі на вялікі вандзэлак.

— Прэндзэй!

Першы раз у жыцьці ён быў такім паслухмяным. Узвалілў на сябе нешта мяккае, укручанае ў плюшавую коўдру.

Накіравалі яго ў бок Віленскага вакзалу. Немагчыма, сьпякота. Ён спацеў. Некалькі разоў пераступаў праз трупы забітых. Чамусьці раней драўляныя тулавы і васковыя галовы, выкінутыя на тротуар, яго больш палохалі, чымся цяпер чалавечыя трупы. Дзгарэў вакзал. Пакунак на сьпіне пацяжэў. Крушынскі пачаў пад ім сапсьці, як змардаваны конь.

— Прэндзэй! Прэндзэй!

Ён выбіваўся з сіл, нагнуўся ледзь не да самай зямлі. Валокся наперад, як заезджаны конь.

— Прэндзэй!

Смуродны дым клубіўся па вуліцы, выціскаў сьлёзы з вачэй, вырываў кашаль з горла.

— Прэндзэй!

Крушынскі быў увесь мокры ад поту, калі скінуў з плеч пакунак. Перад вачыма плылі зялёныя кругі.

Пакой.

Вакол сталі п'яныя жанчыны ў адных кашулях.

На стале, на падлозе, на падваконьніках бутэлькі з віном, пячэньне, чакаляда.

Адзін з афіцэраў—чорнавусы з задзірыстым носам — разьвязаў пак. Адтуль высьлізнулася чорнай жывёлінай каракулевае дамскае паліто, разгарнуліся вэерамі некалькі штук шаўковых вопратак, бліснулі завостранымі мордачкамі дзьве пары элегантных лякіраваных туфель.

Жанчыны пачалі зараз-жа прымерваць. Афіцэры ім памагалі, прыгладжвалі на іх вопратку па выпуклых мясцох, адпускалі „вольныя жарты".




ПЕРШЫ РАЗ У ЖЫЦЬЦІ ЁН БЫЎ ТАКІМ ПАСЛУХМЯНЫМ.

— Мне можна ісьці?—як хлопчык запытаўся Крушынскі.

— Можна! — сказаў адзін.

— Не! Не! Пачакай!

Афіцэр падняс яму шклянку віна.

— Пі!

Адгэтуль дамоў ён прабіраўся гародамі і закавулкамі.

Над палаючым горадам, над смуродным дымам, над крыкамі жудасьці плылі ў паветры два самалёты.

П'яны жаўнер задзіраў у гару галаву і хрыпеў:

— Бальшавіцкія, пся косьць!

Крушынскага сустрэў брат:

— Герой вярнуўся!

Жонка плакала.

---

У другую ноч пасярод войканьня і крыкаў чуваць было час-ад-часу бадзёрае „ўра".

Яшчэ з вечару суседкі прынесьлі весткі, што ў горадзе зьявілася самаабарона.

Раніцою адзінаццатага ліпеня горад анямеў. Надышла цішыня. Нібы

## ЗА ЭКАНАМІЧНУЮ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ АД КАПІТАЛІСТЫЧНЫХ КРАІН



Станкабудаўнічы завод імя Леніна. Комсамольская брыгада за зборкай станка.



Агульны выгляд новага зборачнага цэху болта-рэзальных станкоў.

толькі што пасьля апошняга страшнага крыку сканаў казачны волат.

Крушынскі зноў высунуўся на вуліцу. На тротуарах каля брам стаялі групкі абываталяў. На вуліцы валяліся стрэльбы, скрыні з патронамі. Супроць сквэрыка ляжаў застрэлены конь. Побач дыміла паходная кухня. Раптам... З боку Камароўкі цокнула страляніна. Нехта драпаў па сьценах:

— Та-та-та-та... Та-та-та-тра...

Групкі людзей зьніклі, схаваліся ў ранейшыя заховы, тараканамі па шчылінах.

У маленькім сквэрыку стаяў асірацелы летні рэстаранчык.

— Та-та-та-тра... жартаваў недзе кулямёт.

У Крушынскага кроў застыла ў жылах. Ён пачаў туліцца да дрэў маленькага сквэрыка.

Ар'ергард легіянэраў бег поўнай хадою па вуліцы Адама Міцкевіча. З-заду хвастаў па ім кулямётны град.

Крушынскі прырос да дрэва. Перад ім мітусіліся профілі легіянэраў. Спалоханыя. Нямігаючыя вочы. Бледныя твары.

— Паны ўцякаюць... Упаў адзін... другі... трэці...

У Крушынскага пачалі цьвярдзець валасы пад шапкай. Каб мог, дык у самае дрэва ўлез-бы.

— Цок-цок-цок...—цокаюць кулі вакол. Нібы хтосьці зашпіляе ля яго самых вушэй бляшаныя кнопкі.

Праз некалькі хвілін паказаліся чырвонаармейцы. Сярод іх партызаны—у штацкім, узброеныя стрэльбамі. Раптам Крушынскі ўсім целам падаўся наперад. Ён угледзеў Сакалоўскага.

У наборшчыка гарэлі агнём сьветла-шэрыя вочы. Рыжавусы Сакалоўскі бег наперад са стрэльбай у руках па вуліцы Адама Міцкевіча.

Страляніна адсунулася далей. Здалёку здавалася, што гэта нехта малатком б'е гарэхі: — Та-та-та-тра! Та-та-та-тра!

Супроць сквэрыка хлапчукі падбіраюць патроны, часткі кулямётаў. Сьмяюцца. Жартуюць. Сустракаюць чырвонаармейцаў крыкамі „ура".

З двароў дамоў зноў пачалі высоўвацца абывацелі.

Лагодна сьвеціць сонца.

Крушынскі падбег да белага знаёмага мура: цягнула паглядзець...

Над высокім ганкам белага мура былога юбілейнага дома красавалася бляшаная вывеска: „Беларускі нацыянальны камітэт".

Хлапчукі, па загаду нейкага незнаёмага чалавека, ускарабкаліся на брыль ганку і сарвалі адтуль вывеску.

Бляха ірванулася з месца з ляскатам і глухім грукатаньнем ляснулася і дзвынкнула аб цьвёрды каменны ганак. Нібы хтосьці камусьці даў поўху.

Хлапчукі рагаталі.

— Агідная вывеска,—сказаў незнаёмы чалавек. — Праўда, таварыш?—зьвярнуўся ён да Крушынскага.

## ЗА БАЛЬШАВІЦКУЮ РЭАЛІЗАЦЫЮ ПАЗЫКІ „ЧАЦЬВЕРТЫ ЗАВЯРШАЛЬНЫ"

**Таварыш — кропля тваёй ПАЗЫКІ ў сотнях мільёнаў кропляў другіх, ДАСЬЦЬ дзеля нашай краіны вялікай, ТЫСЯЧЫ ФАБРЫК і ШКОЛ і КНІГ.**





Справа: Наркамфін СССР тав. Грынько і старшыня СНК БССР т. Галадзэд на пасажырскім вакзале ў Менску.

Зьлева: Мітынг па рэалізацыі пазыкі „чацьверты завяршальны" каля заводу імя Варашылава.

Фото Кагана і Каплінскага

Ільля Гурскі

# НОВЫ ГОРАД

Урывак з п'есы

Кватэра Віхуры. Шафа, этажэрка з кніжкамі. На стале раскіданы чарцяжы, газэты, часопісы. Партрэт Леніна. На канапе сьпіць Віхура.

## Будзем знаёмы

Смык (ідзе, крадучыся з ліхтарыкам, адвярнуўшыся). Ты Цігр, будзеш на пасьце... а вы братва на апэрацыю. (Бязпрытульнікі разсыпаліся па пакою, чуцен стук).

Міцька. Ну ты, зануда!

Цігр (выбягае з-за дзьвярэй). Маўчы гад, а то дух вон і кішкі на тэлехвон...

Малюнкі П. Гаўрыленкі



Ніякага капіталу ў наліччы не аказалася...

Смык. Ш-ша! (Чытае). Капітал.

Міцька. Дзе?

Смык (паказвае). Во!

Міцька (схваціў кніжку). Карл Маркс. (Пералістваe). Ніякага капіталу ў наліччы не аказалася...

Смык (водзіць ліхтарыкам). Ну і кніжак, ядзяць це мухі...

Цігр. І болей ні хрэна...

Міцька. Што?

Цігр. Нічаво... (Навёў ліхтарыкам на партрэт Леніна, потым на боты). Стоп!

Міцька (хватае боты). Глянь, якая комбінацыя (паказвае хвігу, праз дзірку ў боце), з нашае апэрацыі.

Цігр. Бяры.

Смык (паглядзеў). Барахло.

Цігр (са злосьцю кідае). Ну і апэрацыя!?

Віхура (ускочыў, запальвае лямпу, Цігр накідваецца на яго). Шпа-на! (Вывернуўся, схваціў бот).

Цігр (выхватвае фінку). Коцай!

Віхура. Як коцну!.. (Замахнуўся ботам).

Цігр (кідаецца на Віхуру). Пад дзевятае...

Віхура. Басота! (Моцна сьціснуў руку). Хітры, як ліса, а дурны, як варона...

Цігр (крывіцца). О-ой! (выпускае фінку).

Смык (усьміхаючыся). Якая сіла... ну і сілішча. (Пауза). А сіла, сілу, паважае...

Віхура (падняў падняў фінку, кідае). Вазьмі.

Смык (хватае). Што?

Віхура (усьміхаючыся). Ня бойся.

Цігр (узяў фінку, злосна паглядзеў). Ну, шчасьце тваё, што не разззлаваў мяне. (Пашоў).

Віхура (сьмяецца). Маё шчасьце?!

Смык. Братва!—а ён нічога стары... Каб даў крыху пашамаць, тады свой у доску...

Віхура (адзяе боты). Калі ёсьць што.

Міцька. Адны мышыныя абгрызкі... у наліччы аказаліся. (Сьмех).

Смык. То дай закурыць.

Віхура (дастае махорку). Гэта можна. (Усе закурваюць). А вось паесьці... (Стукае), Суседка...

Смык. Ты слыш, кінь, бачым ядрона вош, што ад шчыра сэрца гасьцей прымаеш... (Падыходзіць). Будзем знаёмы.

Віхура (усьміхаючыся). Давай, пазнаёмімся. (Вітаецца). Ад прыплоду, галава не баліць!?

Смык. Смыкам празываюць мяне, ядзяць-це мухі (паглядзеў на кнігі), з камарамі. (Пауза). Па сацыяльнаму... бацька мой, Сенька Грач, блатны.

Віхура. А мяне Віхурай. Сын ткача, сам, токар па металу.

Смык. Будзем прыяцелямі.

Віхура (дае кніжку). У знак нашае дружбы.

Смык (скрывіўся, неахвотна бярэ). Дзякую. Ленін „Задачы саюзаў моладзі".

Міцька (фыркнуў). Нішто сабе апэрацыя!?

Смык (разглядае чарцяжы). Гм... Ядзяць-це мухі... Да чаго дадумаліся... На балоце...

Віхура (у захапленьні). Хутка каюк, балоту... Праз годзік-два, тут будзе новы горад.

Міцька. Новы горад? Навошта? Не, не чапай балота!

Віхура (радасна). Паднімем цаліну, узварушым чарназём, засьпяваем новыя песьні. Будуй пролетары! Будуючы новыя гарады, выхоўвай новага чалавека...

Смык (разглядае). Тут, значыцца, будзе закладзены новы горад?..

Віхура (паказвае). Ага. (Пауза). А гэта, Элэктрастанцыя... Тут палатно чыгункі...

Смык (паглядзеў, хітра). Ня выйдзе.

Віхура. Чаму?

Смык. Таму. (Паказвае на галаву). Чардак патрэбен... як і ў нашай справе.

Віхура. А хіба?..

Смык. Тэхніку трэба ведаць.

Міцька. Во-во!

Віхура. Аўладаю.

Міцька. Ботаў людзкіх ня маеш, ня то што інжэнэрам быць... (Фыркнуў). Ну і апэрацыя!? (Пашлі сьпяваючы).

„Пamру я, памру я, пахаваюць мяне,
І ніхто не пазнае, дзе магіла мая.
І ніхто не пазнае і ніхто ня прыдзе,
Толькі познаю ночкай, салавей прапяе".

Віхура (увесь час ходзіць слухаючы, застанавіўся). Эх, рэбяткі, рэбяткі...

Клюб рабочых. Пакой упрыгожан пад шахматную дошку.



Шах... І мат...

## Бяру афіцэра

Беразоўскі (сядзіць у куце, перастаўляс шахматы).
Хмара (уваходзіць, садзіцца). Бяру афіцэра.
Беразоўскі (не зьвяртае ўвагі). Шах каралю.
Хмара. Шах і мат. (Змахнуў рукавом шахматы).
Беразоўскі (ускочыў). Я...
Хмара (устаў, спакойна). Як былінка, адзін...
Беразоўскі (нэрвуецца). Я... мы...

Хмара (усьміхаючыся). Кароткае замыканьне... (Пауза). Карэнасты, у самога сябе ўрос...

Беразоўскі (многазначна). Сыграем яшчэ!?

Хмара (махнуў рукою) Праўграна, да-ра-гуша! Нішто сабе ягадка!? У падхалімы да Віхуры...

Беразоўскі Што?

Гніда (уваходзіць, паднімае шахматы). З строю выбіты... (Глядзіць на Беразоўскага). Калі што бяру афіцэра... (Пад нагамі хруснула).

Беразоўскі (усхвалёвана). Як?
Гніда. Афіцэрышка ў маіх руках... (Паказвае).
Беразоўскі (нэрвуецца). Ды ну вас! (Памкнуўся ісьці).
Гніда (злосна). Эй, гаспадзін, ня рызыкуй!.. (Мягчэй). Дай на паўлітроўку...
Беразоўскі. Няма.
Гніда. Знойдзеш!
Беразоўскі (шукае ў кішэнях). Такі, няма.
Гніда (хітра). Барахлішка маеш...

Беразоўскі. Брыдота!

Гніда. Но, но, цішэй на павароце... (Пауза). На сьметнік гісторыі... Ха-ха-ха! (Пауза). Гэты сьметнік яшчэ...

Беразоўскі (перарывае). Ваняе...

Гніда. І здорава. (Падносіць кулак). Ох, як ваняе, сьмярдзіць!..

Беразоўскі (адштурхнуў ад сябе). Балота!..
Хмара. Балота!?
Гніда. Ой не чапай балота... (Пауза). Навошта парушаць спакой ў краі, дзе балота, зьяўляецца адзінаю ўцехай... Колькі казак, легенд, песень, розных мэлёдый з балотам зьвязана...
Вадзім (увайшоўшы чуе апошнія словы). Асушым балота, зьявяцца новыя песьні, мэлёдыі, легенды...
Беразоўскі (рад) Правільна! (Пауза). Сынку, дарагуша!..
Гніда (зласьліва). Нехай сынку, пасьсе сьвінку...
Хмара (да Вадзіма). З маладых, а раньні...
Вадзім. Ба-ло-та!
Віхура (увайшоўшы). Трэба асушваць...
Гніда. Што?
Віхура. Балота. (Пауза). І ў балоце золата бывае...
Беразоўскі! Трэба дарагуша, ой як трэба... Буланы да балота прывыкшы і той заграз...
Гніда. Туды яму і дарога!..
Хмара. Папхнуць, дый калом па галаве...
Віхура. О, не! (Пауза). Выцягнулі мы яго, падкармілі, пабег стары падскакваючы...
Хмара. Кляча...
Віхура. У добрай гаспадарцы і кляча патрэбна... (Глядзіць на раскіданыя шахматы). Давай, стары, сыграем...
Гніда (паказвае). Афіцэрышка ў маіх руках...
Віхура (усьміхаючыся). Нічога, пешкамі заменім... (Садзіцца за шахматы).
Гніда. Эх... у афіцэра... маць. (кідае фігуру).
Віхура (усьміхаючыся, паднімае). Бяру афіцэра.
Гніда (нэрвова). Ня людзішкі, а... сволачы! (Хутка выходзіць, за ім Хмара).
Вадзім (паглядзеў). Жыцьцё, гэта шахматная гульня!?
Віхура. Шах каралю!
Беразоўскі. Мат каралю!
Віхура. Шах і мат!

---

Аркадзь Куляшоў

# ХАЎТУРЫ

(з нізкі вершаў „крызіс")

I.

Суседа на могілкі вёз трунар
 і горач адчуў нутром:
Сухі, як вобла нябожчык-шкляр
 ляжыць за яго гарбом.
Малодшага сына калоціць страх,
 старэйшы сьціў кулакі—
Шырокі ляжыць перад імі шлях
 і можна ісьці ў жабракі.
Вясна у шалёным прыпары
 і хмара дождж валачэ...
Дачка старэйшая ў трауры,
 ёй сонца вочы пячэ...
Малодшая нясе ружы
 і ружай расьцьвіў яе твар.
— Ня рушце яе! Ня рушце!—
 шэпчыць гарбун—трунар,—
Малодшы, ты зложыш косьці—
 худы ты і лёгкі, як пух;
Старэйшы ты пойдзеш у госьці
 да брудных партовых шлюх...
І ты, што ў трауры, слухай,
 ты бацькаўшчыну праклянеш!
Ты станеш выдатнай шлюхай
 шчасьлівай ня станеш але-ж!
І тут нічога ня зробіш—
 такі наш праклята лёс.
Ад самай страшной хваробы
 згніе да косьці твой нос!
З табой начаваць будзе кожны:
 буржуй, валацуга, поп;
У мех зашнуруюць кожаны—
 травой зарасьце твой троп.
А ты, малодшая, з ружай
 суседа майго дачка,
Ты вырасьцеш будзеш дужай
 і дзецям дасі малака.
На костках сястры і брата
 ты крызіс пераджывеш,
Ты будзеш гуляць багата
 па рэках, па вышках веж.
. . . . . . . . . . . . .

А я прыхільнік другога,
 кажу трунару:—Вар'ят,
Рабочых дзяцей дарога
 іначай ідзе акурат!
Ці справа ў адным толькі хлебе,
 які дабываюць з траў?
А ты раскажы ім лепей—
 каго ты ўчора хаваў!

2.

Якраз перад золкам учора
 (сказ пачынай такі)
Хавалі свайго рабкора
 чырвоныя франтавікі.
Яны выразалі біла—
 сыры бярозавы кол;
І дзьвесьце маўзэраў біла,
 як клалі рабкора ў дол.
Пасьля ўрачыстага бою
 слова браў камандзір:
— Раcьвітаемся з табою
 і сыплем на дошкі жвір...
Хаваем цябе мы самі
 і грозны сьпяваем гімн,
Цябе мы апаясалі
 чырвоным сьцягам тваім!
Імя тваё не забыта—
 ты справу сваю зрабіў!
Знайшлі мы цябе забітага
 сярод палявых краліў...
Фэрмэрскі бык паласаты
 лізаў на грудзёх тваіх кроў,
Глядзеў на нашыя хаты
 і доўга, працягла роў.
І вось мы ладзім хаўтуры,
 схіляем сьцягі над труной;
Мы ўсе палацы і турмы,
 і цэрквы зруйнуем з зямлёй!
Мы-ж нашым бацькам абяцалі
 зямлі перайначыць лёс,
Мы-ж сэрцы кладзем на шалі,
 на шалі тугі і сьлёз!

1920 ГОД

За кожным—сполахі—парогам,
у поле кінуў вораг сьмерч.







Ды толькі ўкрадкай па ваду,
ішоўшы мацеры паплачуць.



Па ўсіх запутніках, дарогах
шпацыравала госьцем сьмерць



Прыдуць, павяжуць, павядуць...
Расьлі турэмныя палацы

Хто гора гэтага ня стрэў?
Ты помніш енкі і літаньні?



На кожнай вуліцы расстрэл,
у кожнай хаце катаваньні.

# БОЛЬШ БЕЛАРУСІ ЖАБР

ШЫРС
СТАЁВА
ІНДСТРЫ
ЎЗЛЁ



Будынак Камунбанку ў Менску



Панчошна-трыкатажны комбінат у Віцебску

**1920**



Гомельшчына. Рабочы пасёлак пры гуце ў Касьцюкоў



Новы дом пад кватэры рабочых Нова-Беліцы



Менск. Савецкая вуліца





Нова
ў Ба

Фото Грына, Салавейчыка, Семенякі, Шышко

# ...ЖАБРАЧ КАЙ НЯ ГНУЦЦА,

...ШЫР СЯ
...СТАЛЁВАЙ
...НДУСТРЫІ
...З ЛЁТ



Новая мэханізаваная цагельня ў Мэнску



Сталовая на заводзе імя Варашылава



## 1932



Галоўны корпус Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту



Новая запалкавая фабрыка „Пралетарская перамога“ ў Барысаве





# РАСЬЦЕ НОВАЯ, САВЕЦКАЯ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ БЕЛАРУСЬ

## ПРАЦА НАШАМУ ЛЕПШАМУ СЫНУ—СПРАВАЙ ГОНАРУ Ў БАРАЦЬБЕ. ПЕРАКРОЙВАЮЧЫ КРАІНУ—ПЕРАКРОЙВАЕМ І СЯБЕ

Фото Мазэлева і Салавейчыка



Макет фабрыкі-кухні, якая будуецца ў Менску



Новы будынак Політэхнікуму ў Менску



На пабудове дому ўраду



Макет тэатру, які будзе будавацца ў Менску

МІХАСЬ БАГУН

НАРЫС

# Заваёваны рынак

Траецкая гара—па нашаму, пляц Парыскай Камуны—самы вялікі пляц у Менску. Ён мае ў гісторыі свайго шматгадовага існаваньня багата цікавага і арыгінальнага.

У панядзелак, сераду, пятніцу і нядзелю—традыцыя гэтых дзён існуе і да нашага часу—на траецкую наяжджалі сялянскія фурманкі, выходзілі рамесьнікі-саматужнікі з бярэмам сваіх тавараў за плячыма, зьбягаліся з усяго гораду чыноўніцкія жонкі з вераўчанымі кашолкамі ў руках, прыходзіла гарадзкая беднота, спадзяючыся вытаргаваць штоякое ў сытага самазадаволенага кулака, спрытныя гандлярчыкі і пузатыя мяшчане—і адчынялі бакалейныя і іншыя крамы—тады пачынаўся звычайны для пляцу гандлёвы, гарачы дзень.

Гуд стаяў над пляцам.

Гандлявалі па-старому, па-даўнейшаму: пакупнік і прадаўнік намагаліся ашукаць адно аднаго, людзі з таварамі лупілі тры скуры з людзей, якія прышлі па тавары. На рынку кралі. Выпівалі. Біліся. Лаяліся.

Над пляцам стаяў гуд.

Скрыпелі калёсы, іржалі коні, гаманілі людзі. У паветры плаваў лёгкі пах мяккага мурожнага сена, яго перабіваў пах густога чорнага дзёгцю, моцнага мужыцкага поту і аўчыны. Недзе на ўскрайку пляцу падпіў і надрыўна плакаў галасісты гармонік.

Прадавалі багатыя—бедным ня было чаго прадаваць, куплялі ў асноўным багатыя—бедным ня было за што купляць. „Дробная сошка“—рабочыя, рамесьнікі, незаможная частка менскага мяшчанства, карысталіся тым, што аставалася на вазох, недабранае зганенае шчасьлівейшымі „прывілеяванымі“ пакупнікамі.

Прагрымелі буры рэволюцыі.

З трэскам, рэха якога грозным напамінкам пракацілася па ўсім сьвеце, абвалілася гнілая імпэратарская Расія. Зьніклі з вуліц і з пляцаў монумэнтальныя постаці гарадавых у белых, заплямленых крапелькамі мардабойнай крыві, пальчатках. Нараджалася новае жыцьцё.

А на Траецкай у гандлёвыя дні гэткі самы, як і раней, гуд і гоман. Гуд і гоман і нават пах гэткі самы, а людзі ня гэткія. Тыя самыя, але ня гэткія самыя.

Чыноўніцкія жонкі, што раней бегалі ад возу да возу, трымаючы ў руках лёгкія вераўчаныя кашолкі, адломліваючы кавалачкі сыру, аблізваючы шчарбатыя, мужыцкія, усаджаныя ў густую жоўтую сьмятану, лыжкі—„паспытаць“,—тыя самыя чыноўніцкія жонкі павыцягвалі на пляц нажытыя іхнымі чыноўнікамі набыткі,—парасклададалі іх на зямлі на квадратовых пасьцілках і паселі каля пасьцілак, бліскаючы злоснымі, як у галодных сабак, вачыма, намагаючыся зьвярнуць увагу пакупніка на срэбную з аблезлай пазалотай элегантную бранзалетку, на мудрагельную габінэтную лямпу—запаветную мару ўсяго жыцьця якога-небудзь банкаўскага або паштова-тэлеграфнага лысагаловага рыцара канцэлярскага крэсла з 35 рублёвым акладам пэнсіі.

Рамесьнікі, як і раней, швэндаліся па рынку з вопраткай падазронай якасьці, тандэтным абуткам. Толькі калі раней яны бралі курс пераважна на запушчаных паноў і паняў, дык цяпер яны, як мурашкі, аблеплівалі з усіх бакоў сялянскія вазы, намагаючыся перакананаць якога-небудзь рудатварага дзядзьку ў тым, што пуд жыта за гэткія добрыя—вой, добрыя, гэткіх, дальбог, ні ў кога ня знойдзеш за такую цану!—чаравікі, гэта—нядорага.

Панавалі ў той час на рынку рудатварыя дзядзькі ў новых даўгіх кажухох, у высокіх кудлатых шапках. Яны хадзілі па рынку, прыглядаліся да чыноўніцкага і рамесьніцкага барахла, бралі элегантныя бранзалеткі ў рукі, разглядалі іх, пыталіся пра цану, нядбайна кідалі іх назад на пасьцілку і, адыходзячы, зьневажальна гаварылі:

— Пуд! Чаму ня дзесяць!? Разласаваліся вы на пуды. Хочаш пару гуркоў, што пасьнедаць узяў сабе, дам...

І, плюнуўшы пад ногі, ішоў „дзядзька“ да другой пасьцілкі, дзе зноў адбывалася аналёгічная сцэнка.

Гэта былі тыя часы, калі дробнабуржуазны і пролетарскі горад, узваліўшы на плечы парцалянавае начыньне, прызапасеную соль, абразы, пару апошніх портак і сьвяточную жончыну спадніцу, ішоў у кулацкую вёску па жыта, па бульбу—па жыцьцё.

Ня жыцьцё было кулаку—маліна: вёска ў руках і рукі моцна сплялі яе за глотку, яе, закабаленую, застрашаную, бядняцкую. А горад сам ішоў да кулака. У гэтыя часы на Траецкай было пуста. Толькі веряб'і скакалі па бруку, шукаючы між каменьняў якой пажывы, ды вартавы каля шэрага будынку АБВШ стаяў, строгі і ня рухомы, як гранітны помнік.

Прайшлі чарадою гады.

Зьмяніліся суадносіны клясавых сіл у краіне Саветаў. Жалезнаю хваткаю дыктатуры пролетарыят сьціснуў за горла свайго спрадвечнага ворага. Накіраваная пераможнай воляй рабочае клясы, вёска цьвёрда стала на соцыялістычны шлях разьвіцьця. Расьлі колгасы—ліквідавалася кулацтва. Краіна перамагала цяжкасьці, ствараючы вялізарную эпоху ў гісторыі разьвіцьця чалавечага грамадзтва.

Траецкая гара стала пляцам Парыскае Комуны.

Штогод—1 мая і 7 лістапада—на пляцы адбываюцца вайсковыя парады Чырвонай арміі. З горда ўзьнятымі галовамі праходзяць па бруку ўпэўненыя, стройныя кагорты перадавых байцоў міжнароднай соцыялістычнай рэволюцыі. І два разы ў год на пляцы Парыскай Комуны сотні маладых байцоў—чырвонаармейцаў у адзін голас паўтараюць за командзірэм простыя і зразумелыя, вялікія ў сваёй простасьці і праўдзівасьці, словы:

— Я—сын працоўнага народу...

Глуха гудзе пляц Парыскай Комуны... І не разабраць—ці то словы прысягі аддаюцца над пляцам глухім, грузным гудам, ці то горда і радасна бушуе агнёва-чырвонае мора пролетарскіх сьцягоў і штандараў...

Вялізарная краіна Саветаў, з усіх бакоў аточаная ворагам, напружвае ўсе сілы, намагаючыся вызваліцца з-пад экономічнай залежнасьці ад капіталістычных драпежнікаў, пераможна выйсьці з цяжкасьцяй, выканаць і перавыканаць пляны першай пяцігодкі—пяцігодкі, якая кладзецца ў аснову будучых вялізарных работ па збудаваньні соцыялізму.

Горад адчувае недахоп продуктаў, і горад і вёска адчуваюць недахоп прамысловых тавараў. Як рупны гаспадар, партыя бачыць, што патрэбна зрабіць для таго, каб становішча выраўнавалася, каб запатрабаваньні шырокіх мас працоўнага насельніцтва былі задаволены.

Зьяўляецца шэраг гістарычных пастаноў, накіраваных на палепшаньне забесьпячэньня працоўнага насельніцтва. Скарачаюцца лічбы дзяржаўных загатовак па збожжы, па мясе, з тым, каб рэзэрвы, вызваленыя пры скарачэньні пайшлі на задавальненьне патрэб працоўнага насельніцтва. Адкрываюцца савецкія колгасныя рынкі. Фабрыкі і заводы мобілізуюць усе рэсурсы і пачынаюць форсаваны выраб рэчаў шырокага спажываньня.

Сваячасовасьць усіх гэтых мерапрыемстваў не падлягае ніякім нават самым найменшым сумненьням.

28 мая 1932 г. увечары на пляц Парыскай Комуны зьявіліся людзі з сякерамі, рыдлёўкамі, піламі, малаткамі. На гэтых людзей ужо чакалі белыя смалістыя дошкі, скіданыя ў некалькіх мясцох заходняй часткі пляцу параўнальна невялікімі грудкамі.

Людзі разьбіваюцца на групкі. Каля кожнага грудку дошак—групка людзей, заклапочаных, сур'ёзных... Яны скідаюць з сябе верхнюю вопратку—вечар цёплы, майскі і вопратка толькі замінае ім працаваць,—і пачынаюць капаць ямінкі, стаўляць у іх слупы, пілаваць пахучыя смолкія дошкі.

— Што гэта яны за шыбеніцы там робяць?—пытаецца ў знаёмай суседкі зьдзіўлены абыватаэль, зацікаўлена глядзіць колькі часу на пляц, дзе выростаюць лёгкія шкілеты невялічкіх будынкаў, чухае патыліцу і сьпяшаецца дамоў—хутчэй пераказаць хатнім цікавую навіну.

Калі сонца вялізнай акрываўленай куляю павольна спаўзала па туманным беразе зямлі ў зеленавата-сінія мяккія далоні ночы—на пляцы ўсё гатова: вырасла каля дзесятку зграбненькіх крамак-ларкоў МЦРК, Белгандлю, фабрык, заводаў.

Працоўны Менск лацзіў організаваную сустрэчу на рынку організаванаму выезду працоўнай вёскі.

Над ларкамі, між ларкамі на высокіх жэрдках калыхаліся шырокія чырвоныя істужкі лёзунгаў.

— Організаваную сустрэчу першаму організаванаму савецкаму рынку!

— Гандаль наогул ператворым у савецкі гандаль!

— І шмат іншых, політычна завостраных лёзунгаў, накіраваных на палепшаньне забесьпячэньня працоўнага спажыўца, на організацыю гандлю без пасрэднікаў-спэкулянтаў, якія аднача́сова абдзіраюць і рабочага спажыўца і працоўнага селяніна таварапродуктара.

Абыватаэль, прачытаўшы лёзунгі, злосна ўсьміхаўся ў радасным прадчуваньні грандыёзнага грамадзкага і політычнага „скандалу“.

— Калгасы запрашаюць!.. Чакайце, прыедуць... А як-жа...

— Чаму?! Дурні знойдуцца,— падпяваў абыватаэлю яго крышку больш оптымістычна настроены сусед. Дурні

# ГАНДАЛЬ НАОГУЛ ПЕРАТВОРЫМ У НАШ САВЕЦКІ ГАНДАЛЬ

**Таварышы — намі ўзяты ад ворага рынак**
**будзем, як песьню ўзьнімаць над сабой,**
**каб быў ён ня зграі кулацкай прыпынак,**
**а наш бальшавіцкі, наш слаўны набой.**

На здымках малюнкі калгаснага рынку. Фото Кагана









**Калгасны рынак** **Гарбатня**

знойдуцца: выкалацяць з хаты ды з сьвірану апошняе, прывязуць, а гэта іх—проша, проша, галубкі, ану-тка, што вы там прывезьлі—гані сюды, калі ў каталашку ня хочаш!..

— Во будзе штука!—злосна рагаталі суседзі і іхны рогат далёка каціўся па сонным бруку пляцу Парыскай Комуны.

---

У мяне ёсьць суседка. Яна жыве ў адным доме са мною, мае мужа, спакойнага але не сымпатычнага хлапца з падазроным соцыяльным і грамадзкім мінулым, апроч мужа яна яшчэ мае сваё крымінальнае мінулае, паганы няўжыўны характар, маленькі пакойчык, сьцены якога скрозь абчэплены таннымі фотографіямі самаздаволеных мяшчан, плоймы клапоў за гэтымі фотографіямі, прымус і солідны спэкулянцкі стаж за плячыма.

Муж яе працуе на нейкай фабрыцы, ці на складзе, карыстае ўсякі зручны момант, каб прыперці адтуль якую гаспадарчую, патрэбную ў хатнім ужытку, дробязь.

Жонка не працуе стацыянарна нідзе, але зарабляе больш за мужа. Яна езьдзіць па раёнах, скупляе там па таннай цане мяса, прывозіць яго ў Менск і прадае яго і суседзям і на рынку, атрымліваючы 100-150 проц. чыстага прыбытку.

29-га мая, мая суседка—я буду зваць яе проста суседкай—выправілася на рынак з чарговым запасам мяса, пабыла там прыблізна з гадзіну і, разьятраная, злосная, вярнулася дамоў.

Маці пытаецца:

— Ну, як, суседка, ці прадалі? Ці вялікі сёньня рынак?

„Суседка“ абурана адказвае:

— Але, прадасі там! Наехала гэтых чарцей повен пляц, зьбілі цэны на ўсё—дзе-ж там прадасі!..

Так лопнулі абывацельскія клясава-варожыя плёткі аб тым, што колгасьнікам няма чаго прадаваць на рынку, „бо ўлада ўсё паадбірала ў колгасаў, аб тым, што ў колгасах—галадоўка і што з організаванага савецкага рынку ўсёроўна нічога ня выйдзе“. Гэта плётка была пушчана вуснамі ворага.

29 мая пляц Парыскай Комуны гуў, як растрывожаная калода пчол, але гуд гэты быў вясёлы, радасны.



**За культурнае абслугоўваньне на колгасным рынку**

„Чэрці“ ў суседчынай характарыстыцы, а па-нашаму—колгасьнікі, саўгасьнікі, працоўныя аднаасобнікі, організавана, у вялікай колькасьці выехаўшы на першы савецкі рынак, разьбілі варожыя плёткі мяшчан і абывацеляў, наказалі, што працоўная соцыялістычная вёска чула рэагуе на пастановы партыі і савецкай улады, заўсёды гатова дапамагчы ажыцьцяўленьню гэтых пастаноў, бачыць у рабочай клясе свайго надзейнага і магутнага саюзьніка і кіраўніка. Апроч гэтага першы савецкі торг падрэзаў ногі спэкулянтам, але аб гэтым—крышку далей.

Каля ларкоў, у якіх раскладзены прамысловыя тавары—натоўпы колгасьнікаў. Тут гандаль праходзіць яшчэ жвавей і весялей чымся, каля вазоў.

Перакупшчыкі-спэкулянты не пакідаюць па-за сваёй увагай гэты **важнейшы сёньня** вучастак савецкага торгу, вучастак, на якім тварам у твар сустракаюцца два працоўных таваропродуктары — колгасьнік і рабочы праз свой ларок. Яны, перакупшчыкі, лёзуць пад рукі, цягнуць колгасьніка, які прышоў абмяняць сваю продукцыю на прамысловы тавар з крысы, тузаюць яго за рукі:

— Слухай, слухай, што даць за яйкі?

— Слухай, пачакай, я куплю масла...

Колгасьнік адбіваецца ад гэтых знаёмых шныпаркіх фігур, адпіхвае іх локцямі і, нарэшце, разазлаваны іхназольнай настойлівасьцю, спыняецца і кідае проста ў твар нахабнаму чалавечку з маленькай чорненькай бародкай і хітрымі мышынымі вочкамі:

— Ды адчапіся ты, назола... тваю макаўку! Мінуліся тыя часы, калі з вамі, шэльмамі, справу мець трэба было...

Перакупшчык не зьбянтэжаны, ён нешта спрабуе агрызнуцца, але, калі селянін, крута завярнуўшыся, падыходзіць да ларка МЦРК, перакупшчык зноў пачынае шныпарыць у натоўпе, шукаючы зручнага выпадку падзарабіць і за кошт прадаўца і за кошт пакупніка.

Наступны абразок паказвае, што ня ўсе нашыя работнікі знаёмы з апошнімі пастановамі партыі і ўраду. Гэта ненормальна. Гэта патрэбна ліквідаваць.

Селянін прадае мяса. Сьвежае. Крамянае.. Чырвонае.

Ён заклапочаны. Каля яго гурма народу. Усякія бываюць людзі. Трэба і адрэзаць, і адважыць, і грошы палічыць, і адначасова глядзець, каб які падшывалец ня сьцёг чаго з возу. Вочы селяніна блішчаць. Ён спрытна распраўляецца з мясам, сякучы яго на кавалкі шырозным нажом, зробленым, як відаць, са старой абламанай касы. У самы гарачы момант праз натоўп да возу праціскаецца міліцыянэр.

— Грамадзянін,—бярэ ён селяніна за плячо.—Грамадзянін, пакажэце дазвол на продаж мяса.

Селянін зьдзіўлена глядзіць міліцыянэру ў вочы.

— Як—дазвол?.. Гэта-ж хто хоча—той і можа прывезьці на рынак, што мае...

— Пакажэце ваш дазвол,—настойвае міліцыянэр, — або хадзем у аддзяленьне...

Пасобныя галасы з натоўпу няўпэўнена протэстуюць.

— Няхай прадае.

— Не чапайце яго... Цяпер можна без дазволу гандляваць...

Канчаецца ўся гэтая сцэнка тым, што зьбянтэжаны міліцыянэр пакідае селяніна на месцы і спрабуе апраўдацца:

— Я ня чытаў, мне ніхто не казаў, што ёсьць гэткая пастанова,—вінавата ўсьміхаецца ён і хуценька зьнікае сярод натоўпу.

Селянін зноў пачынае спрытна распраўляцца з мясам.

Пад вечар мая суседка зноў панесла на рынак мяса. Дзень быў гарачы і яна баялася, каб яно часам не сапсавалася. Вярнулася дадому позна ўвечары, вясёлая, здаволеная і сама падышла да маткі пахваліцца сваёй удачаю:

— А ведаеце: усё прадала па 10 рублёў кілё.

— Якім чынам?—зьдзівілася маці.—Мяса-ж колькі хочаце па 6 рублёў было на рынку.

Здарылася-ж гэткае: перакупшчыкі прарвалі дружны фронт савецкага гандлю. Яны зранку скупілі большую частку вывезенага на рынак мяса, пачакалі да паўдня і калі мяса з рынку зьнікла—пусьцілі яго зноў на рынак, але ўжо не па 6, а па 10-12 рублёў за кілёграм. Такім чынам і мая суседка змагла вырваць з працоўнай кішэні дзесяткі рублёў прыбытку.

Увогуле пляц мы заваявалі, але гэты факт з мясам гаворыць аб тым, што мы яшчэ ня ўсё зрабілі ў справе організацыі савецкага гандлю. Кооперацыя не разгарнула дастатковай колькасьці гандлёвых ларкоў, існуючыя ларкі ня былі належным чынам забясьпечаны таварамі, патрэбнымі працоўнаму сялянству. Гэтым, часткова, тлумачыцца тое, што мы яшчэ ня выбілі канчаткова з пляцу спэкулянта, перакупшчыка, ня ўзялі гандаль цалкам у свае рукі.

А мы павінны гэта зрабіць. Рынак павінен быць цалкам заваёваны савецкім гандлем.

Позна ўвечары разьяжджаліся з рынку задаволеныя першым колгасным торгам сяляне.



УЛАДЗІМІР ХАДЫКА

# каб зьвінелі дні

Каб зьвінелі дні—адкінь
Бразгат чорны каля сьмеху.
Павырасталі радкі
На вялікую пацеху.

У вялікі дбайны час
Грозна выйсьці верш навучан...
Змрок шукае пералаз
Дагуляць тугу заручын.

Завывае ў бары
На злосьмех і радасьць юдам...
Перакуленай пары
Чамяра сплывае хлудам.

На зьняволенай душы—
Ліха золата і срэбра
Адсьпявана тлом імшы,
Адтанцована па рэбрах.

У зямлі прасьветлен зрок,
Сьвет зьмяняе профіль шэры.
На зямлі дужэе крок
Перад прыйсьцем новай эры.

Абыйшоў агонь вачэй
Тлень злаславую да споду,—
Каб дабіць яе хутчэй,
Каб хутчэй яе даходаць.

Адусюль краі нясуць
Баявы штандар змаганьня.
На крывавую расу
Стала вызнанае раньне.

На крыжы ахвяр кладзе
Гартаваны меч збавеньня—
Абрабованых людзей,
Катаваных пакаленьняў.

---

Час вялікіх судных рат
Няўмiручай прыдзе славай...
Вось чаму грыміць магнат
Крывяжэрнаю расправай.

Вось чаму, глынуўшы рык,
З мінай дзьябальскай на твары,—
Кат прастромлюе язык
У няшчаснае ахвяры.

На палёх імглой спавіў
Чорны шал жывыя кветкі...
Рукі белыя ў крыві
У далікатнае суседкі.

Абрасьлі шляхецкі рай,
Як смаўжы, сьвятыя прошчы,
Гвалт і нэндза цераз край,—
Гэта твар шаноўнай Польшчы.

Пазьдзірала строі ўсе
У лесе джуплаў і вяровак...
Голай лыткаю трасе
З хэўрай кручаных сябровак.

У раме ўрадавых прыгод
Узрасла яе асоба.
Сьлініць вус шчарбаты рот
Пана ўдалага Заглобы.

На вякі ахрышчан псюк
Слынным рыцарам адвагі...
Пераняў ад дзеда ўнук
Цісьнуць градус польскай брагі,

І, каб пітае адлець
Смак ня страціла (наўдаку!)—
На ласкавым хлебе мець
Паліцэйскага сабаку.

Селі псярнямі кругом
Ваяводзкія закуткі—
Вартаваць публічны дом
Эўропэйскай проституткі.

---

Вецер сьвішча праз мяжу
Пра спакой душы вяльможнай:
Па дванаццатым крыжу
Прыпадае хаце кожнай...

Слова рунь бізун дасек,
Перамёў на шлях каменны.
Берагі заходніх рэк
Закіпелі бурнай пенай.

Зграя хмар свой цень кладзе—
Груда чорная на грудзе...
...Тым ярчэйшым будзе дзень,
Чым шалёней поўнач юдзіць!

### Я за айчынай дух раню...

Я за айчынай дух раню,
Каб збавіць больш наступнай раны.
Ад сьцюжы прошчай і агню
У сьвет прыйшла мая крамянасьць,

Зямлі паростак не дало,
Што прагла ў лісьценях агрыбсць...
Кладу халодную далонь
На лоб сваёй празрыстай зьнібе.

Маіх клапот лірычны цэх
Паўстаў блакітнымі мурамі,
Дзе чалавечы плён уцех
Смактала шляхта хутарамі.

Як толькі рань брывом кране,
Я чую, узрушаны дазваньня:
Танцуе песьня на струне,
І слоў у сэрцы трапятаньне.

І гук, што лётаў кагадзе,
Хвалюе жыл напружных рочаць.
Узрэхі рэчаў і людзей
Жывая думка ўпарта точыць.

Вядзе на штурм, каб зьбіць прабой
У ланцужных кратах і кавальнях,
І ненавідзець усёй душой
І блізкіх ворагаў і дальніх...

На воку—узьюшаны жандар,
З тупою мордай горны воран...
Брыдой заплёваны бульвар
З краін адрэзаных утворан.

Спраўляюць вытлучы там баль,
Іржавай брызгаюць падковай...
А новы тор займае даль—
Неперамажны і суровы.

Юр. Лявонны

## Тэй жуды не пазбыць, не закрэсьліць...

На скрыжалях найноўшых гадоў
Тэй жуды не пазбыць, не закрэсьліць...
Цяпер кожны за зьдзек той гатоў
Ўзьняць, як помсту,
і шаблю, і песьню!

.., Ой, ды рукі вярба заламіла
Над сьцюдзёнай вадой,
над крыніцай.
Скрозь вядзе, нібы гуннаў—Аціла
„Варшавякаў“—Доўбар-Мусьніцкі.

Гэта ў енках, агнях, пастэрунках
На краіну ідуць легіёны;
Гэта сплецены ў страшны карунак
Сьцежкі гневу, крыві і праклёнаў...

І вясёлая-ж катам работа!
З блаславеньня распуснай Антанты

Стогне край пад акованым ботам
Азьвярэлага окупанта...

Будзе доўга лятаць над палямі
Афарбованы жудасьцю дзень,—
Як жахлівая казка, як лямант
Пад загадам „двадзесьце пеньць!“.

І сягоньня жывы напамінак
Пра дваццаты—„Усходнія крэсы“,
Дзе й цяпер
у зжабрачаных гмінах
Тэй жуды не пазбыць, не закрэсьліць...

Ў цень гісторыі
ўво"дуць часы,
Калі ветры гулялі ў руінах:
І мужае, поўная сіл,
Маладая наша краіна!

К. Губарэвіч

# Шчасьлівыя людзі

Невялічкі дом, дзе жылі замежныя рабочыя і спэцыялісты стаяў на ўскраіне рабочага пасёлку. Вокны задняй сьцяны, адкуль былі відны толькі поле ды лес, чамусьці наглуха задрапіраваны. Людзі трывожных гарадоў Эўропы мабыць ня любілі ціхіх пустых прастораў.

Затое Пагель часьцей усяго адчыняў працівалеглае вакно, з якога відзен увесь пасёлак, а вечарам—агні далёкага гораду.

Доўга сёньня Пагель сядзіць ля вакна. Як толькі прышоў з цэху. На падаконьніку ляжыць маленькі блёк-нот. Сёньня Санька папрасіў яго на вечары прывітаць ад замежных рабочых колгасьнікаў, якія прышлі па вярбоўцы на завод. Ужо дзьве гадзіны намагаўся Пагель сплянаваць разварушаныя непакорлівыя думкі ў блёк-нот. Але ніводная з іх не хацела стаць на другім, трэцім, чацьвертым месьце плянавага распарадку. Кожная намагалася стаць першай. За пяцьдзесят год свайго жыцьця Пагель амаль, нідзе ня выступаў, таму і вырываліся думкі навыперадкі адна другой, нібы коні, якія засталіся ў хляве, а цяпер выхапіліся на волю. Зноў сталі відны з вакна агні далёкага гораду.

Трэці раз застругаў Пагель і без таго войстры аловак, а блёк-нот чысты. Горад ціхі, дзівосна спакойны. Таму дзівосны, што ніколі Пагель ня бачыў гораду здалёк і ня ведаў, што здалёк горад можа быць такім ціхім. Гамбург заўсёды быў устрывожаны нэрвовым грукатам жыцьця. Нават на ўскрайніх сутарэньнях, куды Пагель згаладалы, зьнясілены прыходзіў спаць, чуліся ўздрыгі зямлі, быццам на цэнтральных вуліцах нехта вялікі біўся вобземлю ў бяспрытомным палярушы. Каб заснуць, Пагель углядаўся цераз мурзатую шыбку вакна. На квадратовы кавалачак неба з двума зоркамі. Зоркі, як нейчыя ўпартыя вочы, гіпнозавалі Пагеля і ён засынаў у цяжкай нэрвовай зьнямозе.

— Мо і пачаць-бы з таго—вырашаў Пагель,—што тут я маю работу і яна дае мне здаровы, спакойны сон. Зямля ня дрыжыць, бо такая парная, спакойна-магутная...

Нейчая цёплая рука лягла на плячо Пагеля. Не азіраўся, бо ведаў, што гэта Эльнора—дачка яго.

— Ні запазьнілася ў клюб...—паказала Эльнора руку з гадзіньнікам.

Пагель таропна падхапіўся і паклаў у бакавую кішэнь чысты блёк-нот.

— Я няведаю з чаго пачаць...—прызнаўся Пагель. Эльнора нездагадліва агледзела яго кароценькія, сівыя падстрыжаныя пад шчотачку, косы і паправіла чырвоны вузенькі гальштук.

— Прачытай ім адсюль што-небудзь...—Яна падала бацьку сьвежы нумар нямецкай рабочай газэты,—на, бацька... Мартынсон даў пачытаць—Пагель спакваля адгарнуў першы ліст і... нечакана ўтаропіўся перад нейкай вялікай ілюстрацыяй... Дрыжачымі пальцамі ён згарнуў газэту, усхваляваны, пачырванелы і вінавата зірнуў на Эльнору.

— Ня чытала яшчэ?

— Не...—Пагель уздыхнуў з палёгкай, схаваўшы газэту хутчэй у кішэню.

Ён цяпер ведаў з чаго пачаць... Вось-бы толькі хутчэй капялюш знайсьці... Узрушаны і нэрвовы Пагель мітусіўся па кутках у пошуках капялюша. Эльнора дапамагла знайсьці яго на вешалцы, а надзеў яго Пагель, як трэба, ужо на дварэ. Першае, што заўважыў Пагель, увайшоўшы ў клюб,—невялічкую, са сьвежых, габляваных дошак трыбуну. Да яе і накіраваўся ён па вузкаму праходу паміж услонкаў з людзьмі... Здавалася, што нехта прывітае яго, але Пагель глядзеў толькі на трыбуну. Агледзіўся тады, калі стаў на ўзвышках памосту і пачуў густыя воплескі, быццам узьляталі з вады тысячы спалоханых качак. Ён убачыў няпрычэсаныя (асабліва заўважыў) загарэлыя ад сонца галовы колгасьнікаў. Сьцішылася непакойнае скрыпеньне ўслонаў і загарэлыя, вуглаватыя твары пачалі цікавацца за кожным яго рухам...

— Ад замежных рабочых нашага заводу—т. Пагель!..—цёплым грудным голасам апавясьціў Санька. Пагель узышоў на ўскраек сцэны. Некаторы час стаяў моўчкі і нездагадліва, быццам дзівіўся, што нельга 'шчэ бліжэй падыйсьці да гэтых людзей... Уважліва ўгледзеўся ў сотні вачэй, як нязвыклы прамоўца.

— Я сёньня доўга думаў з чаго пачаць...—Шчыра прызнаўся ён перад усімі. Нехта ў пярэднім раду гмыхнуў і схаваў галаву за суседнюю сьпіну.—Так... Але.—Пагель таропна выхапіў зьлямчаную газэту:

— Зараз мне хочацца сказаць вам, гэносэ, толькі адно:—самыя шчасьлівыя ў сьвеце людзі—гэта вы... Вы шануеце кожнага свайго чалавека... Вось... Я бачу тут маладых, старых... Вы, пэўна ніколі 'шчэ не стаялі за варштатам і ня ведаеце як уключаць рубільнік...

— Ці хто яго...

— Ну, вось... Але вас навучаць і вы ня будзеце праклінаць таго дню, калі сталі да варштату... І не ўцячэце ад айчыны свае, як мы... А мы ўцяклі... (Пагель надзвычайна хутка спацеў і не выпушчаў з рук шоўкавага насавічка)...—Мы ведаем і варштаты, і машыны, ведаем як рабіць іх, але ўцяклі да вас...—Пагель задыхаўся і старанна выціраў спацелую шыю, лысіну, быццам толькі што ўцёк.

— Калісьці змалку мне давялося ехаць у адну афрыканскую колёнію... Паўтара месяца ехалі на вярблюдах па гарачым пяску пустэльні. Аднойчы на небасхіле паказаўся самум... Мы былі зьнясіленыя, як і нашы вярблюды. Ведалі, што нас даганяе паяўная гарачая сьмерць. Некаторыя з адчаю закрычэлі на ўсю пустэльню, чамусьці пачалі біць вярблюдаў. Тыя панюхалі паветра, высока ўзьняўшы галовы і тож, яшчэ з большым адчаем і страхам чым чалавецкі страх, жудасна зараўлі... Рынуліся ўцякаць па глыбокаму топкаму пяску. Мы плакалі, білі вярблюдаў, каб яны хутчэй вынімалі ногі з пяску, а яны раўлі і ўцякалі з намі. Куды ўцякалі мы ня ведалі і пэўна не

Макеяўка. Агульны выгляд канвэярнай атсартыроўкі капальні „капітальная“



ўцяклі-б мы, каб не напаткалі вялікі-вялікі оазіс... Павадырытуземцы ўпалі перад ім ніцма і маліліся ад шчасьця на ваду... Мы тож застыглі перад ёй у літаньні, бо яна ахаладзіла нашы грудзі ад гарачага дыханьня сьмерці... Так...—Успацелы, усхваляваны Пагель сьмялей ужо глядзеў на галовы людзей.

— А ў другі раз у сваім жыцьці я ўцёк ад самуму сюды, да вас...

Вы адзіны і самы вялізарнейшы оазіс у сьвеце, а вакол—сусьветны самум... Да вас прагнуць тысячы людзей, якія ўцякаюць ад галоднае сьмерці капіталістычнага самуму...

— Вось—дрыжачымі нязлухмянымі пальцамі Пагель разгарнуў газэту перад вачыма колгасьнікаў. На ўвесь памер газэтнай старонкі „А І“ рэльефна вызначалася вялікае клішэ: каля шырокай сьмяцьцёвай скрынкі стаіць чалавек з разасланай газэтай на руцэ. Другой рукой з дроцікам, ён, пэўна, выкарпаў са сьмецьця галаву ад сялёдкі і беражліва кладзе яе ў газэту.

— „Высока кваліфікаваны майстар заводу Сімэнса—за сьнедань нем—пераклаў Пагель подпіс ілюстрацыі.

— Ён заўтра тож прадасьць, пэўна, свой двохспальны ложак, велёсыпэд і будзе прасіцца выехаць у Савецкі Саюз...

З пярэдняга ўслону нехта ўзьняўся, асьцярожна пацягнуў газэту з пальцаў Пагеля. З усіх услонаў пацягнуліся да газэты, якую трымаў у руцэ маленькі рыжабароды колгасьнік. Яго захліснулі з усіх бакоў і панавісьлі над газэтай. Ня сьцярпеў і Санька. Ён першы, а за ім увесь прэзыдыум, саскочыў са сцэны і пращчаміўся да газэты. Нарэшце з густога натоўпу газэту выхапіў Ціхвей, узьняўшы яе да Пагеля.

— Скажы, таварыш... — Ціхвей варснуў пальцам у сьмяцёвую скрынку. — А ты сьнедаў калі з гэтае міскі?..—Пагель паружавеў, як півоня, мімаволі адхіснуўся ад газэты, быццам ад яе палыхнула нясьцерпная гарачыня.

Доўга ўглядаўся ў Ціхвея, нібы вырашыў—ці варта яму сказаць гэта аб самым цяжкім і затоеным, аб чым ён ніколі не хацеў казаць...

Са мной прыехала сюды дачка мая, Эльнора...—замест адказу пачаў Пагель. Калісьці ў Гамбургу на іх дваіх беспработных выпадала пятнаццаць марак месячнае дапамогі. На грошы тыя можна было купіць толькі трынаццаць кілё бульбы ды салату. Аднойчы з біржы Пагеля паслалі на часовую будаўнічую работу. Але там ня прынялі яго,—дужа змарнелы быў. На другі дзень Эльнора купіла маргарыну і крышку мяса. Толькі для Пагеля. Сама катэгорычна адмовілася есьці і вырашыла жыць адным салатам. Калі-ж абодвым есьці пароўну—абодвы будам і чаўрэць. А на работу бралі толькі дужых. Са сьлязамі ўпрасіла Эльнора бацьку есьці мяса з маргарынам. З таго часу Пагель сам варыў абед, шкадаваў, каб мясны пах ня бунтаваў яе галодную кроў. З цягам часу ён акрыяў трохі, змог-бы і рабіць нешта, але ніхто ўжо не пасылаў, на работу. Эльнора мілавалася на паздаравеўшага Пагеля і быццам сама дужэла.



Макеяўка. Аўтаматычная насыпка вугалю ў ваганэткі

Канстанцінаўка. Выгляд домны № 2 на заводзе імя Фрунзэ



— Але гэта толькі са мной. Калі-ж заставалася адна, яна плакала, і хутчэй клалася спаць... Аднойчы, перад вечарам нешта, я выйшаў на завугольнае сьметнішча пашукаць кавалачак кноту да лямпы. Ї каля аднаго сьметніку стаяла Эльнора з консэрвнай бляшанкай... Мабыць у сьмецьці знайшла...

Пагель змоўк і паслабіў тугі няёмкі каўнерык. Ціхвей вінаватымі вачыма прасіў выбачэньня, што прымусіў Пагеля на такую адкрытасьць.

— І пасьля вы, таварыш Пагель, зноў елі мяса—з маргарынам?

— Падышоў да яго Санька з цяжкой нясустрымнай задышкай.

— О, не...—Пагель збочыўся ад Санькі, каб не глядзець яму ў вочы.

Пасьля зноў усе елі папалам, зноў пачалося ціхае згасаньне стомленага, аслабелага організму абоіх, пакуль з кармінам і пудрай ня прыйшла да іх старэнькая кузына Эльза. Вечарам яна выводзіла Эльнору на Кляйнэштрасэ, але тая вырывалася, прыбягала дамоў і доўга дрыжэлі ў пасьцелі плечы яе... Але аб гэтым нізавошта ня скажа Пагель ні Саньку ні Ціхвею.

— Ну і дачка, брат, што крэмень то...—нехта хрыпла і зацяжліва ўздыхнуў у пругкую цішыню залі.

— Таварыш Пагель...—Пагель нездагадліва ўгледзіўся на шырокі потны лоб Санькі. Бачыць, як паміж густымі брывямі яго набрыняў потам раўчак.

— От вы працуеце ў нас, а ваша дачка дома сядзіць...

— А то-ж як ..—шчыра зьдзівіўся Пагель.

— Ну, чаму-б вам не пасланць яе ў ФЗВ ці ў вячэрнюю школу?

— О, не!..—Пагель запротэставаў цьвёрда і беспаваротна.

— Я не хачу, каб дачка мая была конкурэнткай для вашых рабочых.

— У вас багата сваіх маладых людзей, якіх трэба вывучыць і забясьпечыць іх самастойнае бясклопатнае жыцьцё...

Цішыня захліснула ўсе куткі залю і з мінуту Пагеля 'шчэ слухалі, калі ён ужо змоўк і выціраў шыю...

— Ты гэта сур'ёзна, ці што?..—павольна падыйшоў да рампы Ціхвей.

Пагель нездагадліва ўзьняў на лоб бровы.

— Так...—Ціхвей падумаў і злосна плюнуў сабе пад ногі, быццам хацеў прабіць падлогу наскрозь.

— Хоць ты, брат, і сівы, а ні сукінага сына ня цяміш..

— Слухай-ка, таварыш... занепакоіўся Санька.

— Па-першаму нельга пляваць на падлогу. (Ціхвей вінавата расьцёр сьліну).

— А па-другое няма чаго лаяць чалавека.

— Дык як-жа ня лаяць, сам ты падумай?.. Гэта ён будзе куркурэнтам у нас?!. То-ж трэба сказаць...—Ціхвей настойліва шмаргануў Пагеля за крысо:— Патвойму выходзіць, што мы пайшлі сюды з колгасу ад няма чаго рабіць?.. Думаеш—нам там дзявацца некуды?..

— Ня ведаю...—пацісънуў плячыма Пагель.

— Дык, што-ж ты кажаш, калі няведаеш...—узьняўся рыжабароды.

— Тут хоць ты купляй людзей гэтых дзе, а ён трымае дачку, як стаенную жаробку... Што яна хворая дапамагчы нам, ці што?

— О, не... Тут Пагель запротэставаў больш рашуча.

— Гэнося, яна здаровая.. Яна ўраньні падымае штангу, дваццаць чатыры кілё...

— Ого.

— Гэносэ, я зараз пайду скажу ёй...—Пагель замітусіўся па сцэне шукаючы нечага. Усхваляваны і таропкі ён абег вакол стала, чула пацісънуў санькіну руку, нарэшце знайшоў на трыбуне свой капялюш. Шырока зашагаў Пагель паміж радоў, удзячна прыціскаючы да грудзей капялюш. У адзнаку павагі ён не надзяваў капялюшу да самых дзьвярэй. Усьлед за ім бег Санька, але не дагнаў...

— Таварыш Пагель, заўтра няхай да мяне ў ячэйку зойдзе...

Толькі і пасьпеў крыкнуць яму усьлед на двор... Пагель, пэўна, ня чуў, бо з капялюшом у руцэ ён бег ужо паміж штабеляў аполак, бярвеньня, бег наўсьцянькі на зыркі сьвет вакон, дзе засталася Эльнора...

**Будзем змагацца за новага чалавека—сьвядомага будаўніка комуністычнай грамады.**

**Беларусь у мінулым з агульна—адсталай краіны ператвараецца ў новую Беларусь—Беларусь агульнай пісьменнасьці**





Менск. На здымках—заняткі з малапісьменнымі на будове дому ураду

Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Рэдактар МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ

# ШАХМАТЫ № 11

**Пад рэдакцыяй Я. Е. КАМЯНЕЦКАГА**

Задача № 67
**Н. Е. Ратнікаў** (Ворша)



6 пахв. водзыў
**Мат у 2 хады**

Эцюд № 2
**М. Айзэнштат** (Кіеў)



**Белыя пачынаюць і выйграюць**

Задача № 68
**Біленка** (Палтава)



**Мат у 2 хады**

## УЗМАЦНІЦЬ ПАДРЫХТОЎКУ ДА ЎСЕБЕЛАРУСКАГА ШАХ.-ШАШ. ЗЬЕЗДУ

Шах.-шаш. зьезд, прызначаны спачатку на красавік, у сувязі з веснавой сяўбой быў адкладзен на лета. Згодна апошняй пастановы ВСФКБ V Усебеларускі шах.-шаш. зьезд адбудзецца ў Менску з 20 ліпеня па 5 жніўня.

Падрыхтоўчая работа да зьезду распачалася яшчэ ў студзені-сьнежні, шмат якія прадпрыемствы і цэлыя шах.-шаш. організацыі ўзорна правялі падрыхтоўку, прыкладам Полацак, які ахапіў падрыхтоўчымі спаборніцтвамі звыш 100 чалавек. Але большасьць організацый ня ўзьнялі падрыхтоўчую работу на патрэбную політычную вышыню, не правodзілі падрыхтоўку на аснове рашэньняў VII усесаюзнага ш.-ш. зьезду, не падпарадкавалі яе агульным задачам фізкультурнай організацыі:—падрыхтоўкай да сусьветнай спартакіяды, здачай норм на значок ГПА, уцягненьнем у фізкультурную організацыю новых тысяч працоўных.

Віцебская ш.-ш. організацыя, адна з мацнейшых у БССР, замест працы ў нізавым зьвяне: на заводзе, фабрыцы, у школе і колгасе, замест правядзеньня фабрычна-заводзкіх спартакіяд, з вылучэньнем пераможцаў у агульна-гарадзкія — падмяніла асноўную работу організацый гарадзкіх спаборніцтваў.

„Але, калі ва ўсіх буйнейшых гарадох БССР былі праведзены своечасова, дык у Менску, які павінен быць вузорам, па якім павінна раўняцца ўся беларуская ш.-ш. організацыя, займаліся толькі размовамі. На буйнейшым прадпрыемстве Менску:—зав. імя Варашылава бюро ФК ні разу не паставіла пытаньне аб правядзеньні заводзкай ш.-ш. спартакіяды, а т. Эцін старшыня бюро, казаў так:

— Што?—Шахматы і шашкі—справа ня дрэнная. Але ў нас на заводзе для правядзеньня шах.-шаш. спартакіяды няма месца.... Ды да таго-ж і часу рабочых няма

Такія настроі ня толькі на зав. Варашылава,—так на „Камунары“, „Бальшавіке“ і іншых прадпрыемствах. Здараецца гэтаму таму, што фізкультурныя організацыі гэтых прадпрыемстваў, закінулі шахматы і шашкі.

А там, дзе фізкультурная організацыя павярнулася да шахмат і шашак, мы маем вынікі, якія ўшчэнт разьбіваюць размовы т. Эціна.

Жаночая гаспадарча-разьліковая ш.-ш. брыгада на шчотачнай фабрыцы імя Крупскай, першая ў СССР—зьяўляецца прыкладнай брыгадай фабрыкі. Прамфінплян па брыгадзе перавыконваецца: красавік—110 проц., май—119 проц. На пазыку брыгада падпісалася на 130 проц. месячнага заробку.

Добра вядзе работу гасразьліковая ш.-ш. брыгада на хлебазаводзе, організатарам якой зьяўляецца т. Гелемсон, рабочы хлебазавода, дэлегат VII усесаюзнага ш.-ш. зьезду, па баявому праламіўшы ўказаньні зьезду ў жыцьцё.

Наогул на ўсіх прадпрыемствах харчовай прамысловасьці, дзякуючы таму, што праforганізацыя зьвярнула на гэты вучастак фізкультурнай работы патрэбную ўвагу, праца пастаўлена добра.

Брыгада ЎсеЦСПС і ВСФК СССР, якая абсьледвала шах.-шаш. работу па БССР, лічыць, што ш.-ш. работа па БССР пастаўлена нездавальняюча, хоць і адзначыла на шэраг дадатковых бакоў — як-та: гаспадарча-разьліковыя брыгады шахматыстых і шашыстых, шах.-шаш. аддзелы ў газэтах і часопісах.

Пастанова ВСФКБ аб скліканьні зьезду абавязвае ўсю фізкультурную організацыю зьвярнуць увагу на гэты вучастак фізкультработы, яна абавязвае максымальна выкарыстаць застаўшыся час для падрыхтоўкі да зьезду.

Раўненьне на лепшыя зьвеньні шах.-шаш. работы БССР.

**Г.**

### РАЗЬВЯЗАНЬНЕ ШАХ. ЗАДАЧ

**(зьмешчаны ў „Ч. Б.“ № 22—23 да 1931 г.)**

Задача № 17. Дэвіз „У часе VII-га“.

Б е л ы я: Kpf7, Ca5 і c8, пп-b7, d6, e6, f6, g6(8).

Ч о р н ы я: Kpd8, Фb4, Лc7 і d5, Cb5 і h4, Ка8, пп e6, e7.., (9).

Мат у 2 хады.

Здавалася-б, у чорных рашаючая перавага ў сілах, дзе ўжо белым марыць аб маце ў два хады, таго і глядзі самі мат атрымаюць. Але так толькі здаецца—маленькі аналіз позыцыі паказвае, што чорныя па руках і нагах скованы ланцугом белых пешак.

Разьвязвае задачу: 1 g6—g7, з пагрозай мату на g8,—і як чорныя не адкажуць на гэты ход,—фінал для іх адзін.

Яны могуць зыграць 1... Фb4—g4, але тады 2 d6 : e7x!

Яны могуць і так 1... Лd5,—g5і але тады перакрыт h4 чорны слон, і белыя матуюць 2. f6 : c7x!

Калі чорныя адважацца даць шах:— 1... e7 : db +, але і гэта дапамагае, што мёртваму лекі. Чорных губіць пешка cb, якая дае мат 2 e6—e7x!

Ідэя задачы ў трохразовым маце пешкамі на поле. Складзена задача Л. Гугэлем (Масква) і Я. Камянецкім (Менск).

Задача № 19 Дэвіз „Такія няпрыкметныя“.

Б е л ы я: Кр b8, Фa3, Лa5 і h5, Cf2 і g4, Каб і c8, пп c2 і g7 (10).

Ч о р н ы я: Кр cb, Фc1, Clas, Ce1 і g2 пп b4, b5, c7, пп d4, d5 (10).

Мат у 2 хады.

c2 — c4 ! пагроза 2. c4 : b5x.
1... b5 : c42. Лa5—c5 x.
1... d5 : c42. Лh5—c5 x.
1... Cg2—f1 2. c4 : d5 x.
1... Фcs : c4 2. Лh5—b5x.

Галоўная ідэя задачы ў наступных цікавых варыянтах, у якіх праходзіць тэма „няпрыкметных перакрыцьцяў“ у злучэньні з біцьцём. en passan't.
1... b4 : c3 e.p. 2. Фa3—c5 x!
1... d4 : c3 e.p. 2. Kab : b4 x.

Усё зроблена ня[дрэнна, але] позыцыя вельмі штучна, што і дала магчымасьць даць задачы адлічку на конкурсе.

Аўтарам задачы зьяўляецца А. М. Дбороджгінідзэ Абастуман, Грузія).

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1528. У ліку 7000 экз. Главлітбел № 862

# 1 9 2 0

Краіна родная, дарогі крыжавыя,
Шумеце гоманам нахмураных прысад.

Польшча сёньня, як царская Расія,
Краіна сьмерці, краіна чорных крат.